*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# Наша Слова




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 8(342)** **4 САКАВІКА 1998 г.**

## Шаноўнае спадарства

Рэдакцыя атрымала вынікі рэалізацыі газеты "Наша Слова" праз шапікі "Саюздруку" за студзень месяц па Гарадзенскай вобласці і гораду Менску.

Вось як гэта выглядае:

| Горад(раён) | Пастаўлена | Спісана | Прыблізная колькасць пакупнікоў газеты |
|---|---|---|---|
| Гародня | 450 | 383 | 19 |
| Слонім | 150 | 200 | ? |
| Ваўкавыск | 150 | 151 | ? |
| Наваградак | 150 | 62 | 30 |
| Ліда | 275 | 155 | 40 |
| Ашмяны | 45 | н. зв. | ? |
| Шчучын | 90 | 178 | ? |
| Масты | 43 | 12 | 11 |
| Свіслач | 43 | 40 | 1 |
| Бераставіца | 43 | 26 | 6 |
| Карэлічы | 45 | 19 | 9 |
| Зэльва | 43 | 28 | 5 |
| Воранава | 43 | 35 | 3 |
| Смаргонь | 150 | 106 | 15 |
| Іўе | 43 | 21 | 8 |
| Астравец | 45 | 14 | 11 |
| Дзятлава | 43 | 68 | ? |
| Менск | 1800 | 207 | 531 |

Шаноўнае спадарства, мы не баімося стаміць вас гэтымі лічбамі. У наступным месяцы мы пастараемся даць інфармацыю па ўсіх раёнах Беларусі. І робім гэта не таму, каб пажаліцца, што несвядомыя беларусы дрэнна купляюць нашую газету, а ў першую чаргу робім гэта для абласных і раённых арганізацый ТБМ. Кожны хто ўмее лічыць убачыць, што са Слоніма, Ваўкавыска, Шчучына, Дзятлава паступіла яўна "ліпавая" інфармацыя. Выклікае сумненне і інфармацыя па некаторых іншых гарадах. Таму мы звяртаемся да сяброў ТБМ. Не палічыце за цяжкасць узяць на сябе кантроль праходжання нашай газеты па сістэме "Саюздруку". Пастарайцеся дамовіцца ,каб забіраць спісанныя газеты і раздаваць у школы. І дасылайце нам інфармацыю пра продаж. Калі вам, скажам, у Шчучыне аддалі ў рукі 50 газет і ў графе спісана стаіць 50, то прэтэнзій да шчучынскага "Саюздруку" мы мець не можам, а калі сёння мы туды пастаўляем за месяц 90 асобнікаў, а яны спісваюць 178, то мы не ведаем, што думаць.

І яшчэ для сяброў ТБМ. Мы друкавалі лічбы падпіскі за студзень, у лютым яны змяніліся нязначна. У сакавіку колькасць падпішчыкаў па папярэдніх звестках вырасла недзе на 50-60 чалавек. У чарговы раз мы надрукуем інфармацыю пра падпіску па раёнах у адным з першых нумароў красавіка. У сукупнасці з лічбамі продажу мы даём вам агульны малюнак распаўсюджання інфармацыі ТБМ і можа будзе сказана гучна, але і нейкіх ідэй Таварыства. І, калі, скажам, у Свіслачы газету выпісалі тры чалавекі ды яшчэ адзін купляе, то данясем мы туды свае ідэі не хутка.

Мы робім гэтую газету бо лічым яе патрэбнай. У Менску прададзена 90 працэнтаў ад пастаўленых. Яшчэ 500 асобнікаў распаўсюджвае сакратарыят ТБМ. Нават толькі для гэтых людзей мы павінны выходзіць. Спадзяёмся, што з месяца на месяц сітуацыя будзе паляпшацца. Пра нас даведаюцца, успомняць і пачнуць чытаць.

***Станіслаў Суднік.***

## *Дарагія Жанчыны Беларусі!*



Вітаю вас у дзень нашага свята ў гэты нялёгкі для ўсіх нас час.

Няма сёння спакою на вашых тварах і ў вашых сэрцах. Няма спакою на Беларусі. У любы момант у кожнай з вас могуць забраць дзіця і кінуць за краты за надпіс на плоце, могуць збіць, аштрафаваць, наздзекавацца за тое, што вы навучылі сваіх дзяцей любіць вас і любіць Радзіму.

Але я веру ў вас, жанчыны Беларусі, я веру ўва ўсіх нас. Нас — палова краіны, і мы абаронім нашую краіну і нашых дзяцей.

Са святам вас, жанчыны Беларусі. Цёплай вясны вам, пяшчоты і сілы. На вашых руках Беларусь.

***Старшыня Беларускага жаночага руху "Адраджэнне Айчыны" Таццяна Ваніна.***

## "СЦЯНА" ад Яновіча

27 лютага ў музеі Якуба Коласа ў Менску прайшла прэзентацыя новай кнігі Сакрата Яновіча "Сцяна", якая выйшла ў выдавецтве "Мастацкая літаратура". Не трэба дзівіцца, што кніга Сакрата Яновіча называецца так жа, як і ў Васіля Быкава. Проста кніга Яновіча праляжала ў выдавецтве каля дзесяці гадоў, а за гэты час ні то што яшчэ адну "Сцяну" напісаць можна было, а і пабудаваць з тых рукапісаў, якія прадаўжаюць чакаць чаргі ў розных выдавецтвах Беларусі.

## *Хартыя - 97*

На мінулым тыдні ў Мастах утвораны рэгіянальны камітэт "Хартыя-97". У камітэт увайшлі прадстаўнікі ўсіх дэмакратычных арганізацый Мастоўшчыны. Старшынёю абраны сябар Беларускай сацыял-дэмакра-тычнай партыі "Народная Грамада" Алесь Пятрашка.

*15 лютага 1998 года ў Менску адбыўся аднаўленчы з'езд БСДГ.*

*Грамада, створаная ў сакавіку 1991 года, зноў адрадзілася.*

*Узначаліў партыю Станіслаў Шушкевіч. У яе шэрагах такія вядомыя змагары за беларускую мову і навогул за беларускае адраджэнне, як Анатоль Вярцінскі, Вольга Іпатава, Сяргей Законнікаў, Адам Мальдзіс, Аляксей Пяткевіч, Мікалай Крукоўскі, Віталь Скалабан, Аляксей Саламонаў і інш.*

*З'езд прыняў статут, праграмную заяву, зварот "Аб пагрозе знішчэння беларускай мовы", а таксама заяву ў падтрымку маладых палітвязняў.*

## Аб пагрозе знішчэння беларускай мовы

*Зварот з'езду Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады да грамадзян Беларусі*

Удзельнікі з'езду БСДГ выказваюць сур'ёзную заклапочанасць станам беларускамоўнасці - аднаго з галоўных фактараў жыцця беларускай нацыі, захавання і ўмацавання беларускай дзяржавы. Рэальнай стала пагроза канчатковай асіміляцыі беларусаў, знішчэння арэалу нашай культуры і мовы. Лідзіруе ў гэттых трагічных працэсах горад Менск. Пацверджанне таму - хуткае скарачэнне ў ім беларускамоўных школ. Так, калі у 1993-94 навучальным годзе 58,6% першакласнікаў Менска прыйшлі у беларускамоўныя класы, дык у гэтым годзе - толькі 7,3%. У 10-х жа і 11-х класах на беларускай мове вучацца усяго 74 і 33 вучні адпаведна. І гэта ў двухмільённым горадзе, дзе большасць насельніцтва - беларусы.

Прычына таму - русіфікатарская палітыка Міністэрства адукацыі і ўрадавай адміністрацыі, абыякавасць у адносінах да нацыянальных праблем Беларусі. Трэба каб кожны разумеў, што знікненне ў этнічных адносінах 12-мільённай беларускай супольнасці прынясе велізарную шкоду ўсяму чалавецтву. Звужэнне арэалу беларускай мовы ёсць пагроза зніжэння разнастайнасці сусветнай культурнай прасторы.

Ва ўмовах, якія склаліся, толькі наша згуртаванасць, пашырэнне тлумачальнай працы, рашучае выступленне ў абарону беларускай мовы здольны ўратаваць яе.

Карыстайцеся ж роднай беларускай мовай паўсюдна! Пераконвайце рабіць гэта ўсіх грамадзян нашай рэспублікі! Бо ўсе мы павінны ўнесці свой уклад ва ўмацаванне беларускай нацыі - асновы дзяржавы, падмурку дабрабыту нашчадкаў.

Ад кожнага з нас, ад нашай згуртаванасці, ад нашых учынкаў залежыць будучыня Беларусі.

**Прыватны агляд беларускага друку**

## Чатыры тыдні ў лютым

**"Народная воля"** З.Пазьняк ("Атрутны дух") ,В. Быкаў ("Жоўты пясочак")
**"Крыніца"** N 37 Ю.Барысевіч "Чарга" .

На першае месца сярод публікацый, што прайшлі ў лютым я прапаную артыкул лідэра Беларускага Народнага Фронту, які , дарэчы, ужо займеў рэзанас у прэсе (і як заўсёды, непрыхільны). Нячаста можна сустрэць у друку думкі аднаго з самых вядомых і уплывовых на Беларусі людзей. Між тым, артыкул сп. Пазьняка варты, каб яго прачыталі і прыхільнікі і праціўнікі.

Справа не ў тым, каб пагадзіцца з усімі ягонымі ацэнкамі, але адчуць і зразумець логіку чалавека, які ўзначальвае буйную палітычную партыю і, дарэчы, з'яўляецца ці не адзіным публіцыстам, што паслядоўна, на працягу гадоў выказвае ў друку пункт гледжання нацыянальнай дэмакратыі.

Мяне зацікавілі не столькі палітычныя ацэнкі, колькі назіранні сп. Пазняка за беларускім палітычным полем. Як жа слушны ягоны папрок у бок айчынных аналітыкаў і прагназістаў! Сапраўды, часта публікацыі шанаваных, і, прынамсі, шырока вядомых аўтараў пакідаюць - насуперак знешняй інтэлектуальнасці ці навуковасці - уражанне разлічаных на пакрыўджаных розумам людзей. Не бяруся вызначыць, ці заслужылі названыя Пазьняком асобы на большую крытыку чым іхнія калегі, але з'ява такая існуе і заслугоўвае, каб яе зганілі.

Яшчэ адна думка затрымала маю ўвагу, і я не магу яе абмінуць у гэтым аглядзе: як, сапраўды мала беларускага ў беларускім (геаграфічна) друку - і па тэмах, і па героях, і так бы мовіць, па аўтарскаму пачуццю. А дарма! Згаданы нумар "Народнай Волі" чытаецца лёгка і прагна, бо выразна адрозніваецца ад шмат якіх іншых, прасякнуты беларускай праблематыкай.

Апавяданне В.Быкава "Жоўты пясочак", упэўнены, нікога не пакіне абыякавым. "Народная воля" дала выдатны прыклад, што нават масавая газета, "таблоід", як гавораць на Захадзе, можа быць змястоўнай і сэнсоўнай, калі робіцца з думкай пра Беларусь.

Выпадкова ці не, але амаль аднachасова мне трапіўся адваротны прыклад: Элітарнае выданне апынулася, на маю думку, не на належнай па статусе вышыні. "Крыніцу" сп. Някляева я, можа не зусім справядліва, разглядаў як натуральнага канкурэнта "Нашае Нівы" і дзеля гэтага глядзеў на яе з прыхільнасцю.Тым болей я засмуціўся, калі прачытаў згаданае эсэ сп.Барысевіча. Я — не філасаф і не гарачы прыхільнік экзістэнцыялізму. З тым большым жалем я сцвердзіў, што не сустрэў у вялізным, як на эсэ, ніводнае думкі, якая б уразіла мяне навізною, глыбінёй ці трапнасцю. Мая патрабавальнасць не павінна здавацца перабольшанаю, бо гэты твор рэдакцыя "Крыніцы" адзначыла прэміяй, як лепшы ў сваёй галіне за 1997 год. Гэтая рэдкая філасофская справа падалася ім, значыць, дэлікатэсам. На маю ж дэлетанцкую думку, ужываючы любімае слоўца сп. Адуковіча, гэта не дыскурс, а экскурс, шматслоўны і, рызыкну сказаць, не злабадзённы.

Дарэчы, гэта агульная рыса зместу "Крыніцы" - незачэпнасць. Не прыцягваюць яе матэрыялы ўвагі, а калі нешта (напрыклад пераклады В.Сёмухі) прыцягвае, то акружэнне, кантэксы, упарта імкнуцца расцярушыць яе(увагу) і адштурхнуць. Я не стаў бы, аднак, пісаць усё гэта, калі б лічыў выпадак безнадзейным а часопіс вартым суцэльнага адмаўлення. ***Д. Ж.***

# Радагосце



Колісь панаваў на славянскіх землях, ладуючы згоду, Бог Рада (Радагошч, Рад). І пакінуў ён па сабе вечныя пазнакі - свята сустрэчы з продкамі Радаўніцу, россып назваў, з якіх найбольш славутыя горы Радагошчы, ды найменне вышэйшае пагодненасці-праўдзівасці: рада.

Даўно наспеў час і нам усім разам раіцца-радзіцца, каб раіліся ў свеце светлыя думкі, а не цямнотная навалач. Даўно пара спамянуць радасць гасцявання - гасцявання адно ў аднаго, у гісторыі, у нашае паэзіі, філасофіі, веры. Даўно засмоціліся душы па шчырай гаворцы пра нас і нашае пачуванне ў часе і прасторы. Можа, радаю, разам намацаем старавечны шлях ад продкаў да сябе і далей - у працяг. Можа рада высвеціць ісціну: якія мы тут, у зямным жыцці-дарозе, што перанялі ад папярэднікаў, а што набываем-вышукваем самі, што жывіць нас, падсілкоўвае, а што азмрочвае душы. Можа, нашая супольная рада згладзіць балючы падзел на католікаў і праваслаўных, праведных і хлуслівых, уладарных і залежных, удыхнуўшы волю ісці Чалавекамі па адзінай нашай Радзіме, у адным на ўсіх стагоддзі, пад адным небам. Можа, радава зразумеем, што думаць, бачыць, верыць па-рознаму — Божы дарунак нам, каб спасцігнуць усё хараство і багацце свету, жыцця, вечнасці. Бо мы ж прыходзім сюды кожны па-свойму дзеіць сваю справу, шукаць і любіць свайго каханага, нараджаць і гадаваць сваіх дзяцей, выбраць і паважаць сваю лёсавую пуціну, спавядацца ў сваім храме, каб з гэтых усіх сваіх памкненняў выткалася гармонія - Радагосце.

А нам пашчасціла: нам ёсць каго пачуць у гісторыі, ёсць да каго прытуліцца, за намі і над намі мудрыя Дзяды, якія таксама журбавалі, расставаліся, хварэлі, летуценілі, перамагалі і былі пераможанымі. І найвялікшы скарб у свеце - энергію сваіх думкаў ды пачуццяў - пакінулі нам на карыстанне. Пакінулі ўпластаваныя ў прастору і час жывыя цёплыя плыні памяці, якія й цяпер трымаюць нас у роспачы ды бязвер'і сваёй моцаю. Але... мы развучыліся чэрпаць і папаўняць засекі сусветнае дабрыні. Таму адкрывайма весніцы Радагосця - і слухайма сябе ды адно аднаго, прыхінаючыся да радаводнага Дрэва. Можа і прасвятлее Наш Шлях.

"Напісанае застаецца"... Прачытанае-пазнанае прарастае ў душы мужнасцю шукаць адказ на свае нягоды-нелады ў сабе, у глыбіні свайго мыслення і светаадчування. Гэтак выдадзеная нядаўна цэнтрам "Бацькаўшчына" кніга Ул.Арлова "Адкуль наш род" разважным роспавядам і зусім звыклымі, здавалася б, пытаннямі для паўтору-замацавання штурхнула мяне да парога, які падзяляе людзей на тых, хто быў, і тых, хто ёсць. Які жыве ў рэаліях зменлівых дзён чакальнікам тых, хто будзе. На гэтым парозе непазбежнага сплыву часу застаў мяне роздум - над прачытанай кнігай і над чалавечымі лёсамі, затканымі ў палотны гісторыі. Роздум пра нашае цярплівае нацыянальнае выжыванне, хаця нам падораныя ўсе правы і падставы для зладнага, гарманічнага жыцця. Калі б ведаць: адкуль наш род і мы - ягоныя спададжэнцы...

## 1

Я дасылаю голас да гісторыі. Скуль, з якое нетры жывіцца неаціхлая плынь нашае, беларускае ракі, ракі, што мае свой кірунак і сваю хаду да акіяна агульначалавечага, сусветнага? Скуль прыйшлі мы ўсе праз мяцеліцы стагоддзяў у гэты час, у гэты Край, каб чыніць свае справы ды ўзгадоўваць новых чыннікаў? Скуль прасвечвае наскрозь нашую людскую забыўлівасць паходня, запаленая продкамі? Хто літасцівы, уседаравальны мацуе наш народны дух, каб "не ўмерлі", не абрынуліся ў бездань-пустэльню, што прагна зеўрае над лёсам каторы век, каторы раз? І дзе мы ёсць зараз - на раздарожжы, на ўзыходзе да Стромы Сутнасці альбо ў зледзянелым спыне? Дый ці трэба цывілізаванаму чалавеку, што звычна "запрагае" касмічны карабель і навучае працаваць замест сябе разумныя машыны, звяртацца да гэтага пасівелага "скуль", абуджаць голас памяці? Можа, лацвей кінуць-рынуць азярыну, што зацягвае ў цёмныя глыбіні, ды рушыць наперад, лёгка, непрывязліва, незалежна- узляцець у другое тысячагоддзе паперадзе ўсіх народаў, прыкутых да спадчынных каранёў? А спрыту нам не пазычаць: як пакляліся некалі першымі ўзяць вяршыні камунізму, адрокшыся ад спракаветнае мовы, -гэтак і стараліся, нідзе не збочылі. Ажно пакуль нам не абвясцілі, што камунізму не можа існаваць у рэчаіснасці. Выходзіць: і ахвяравацца не было дзеля чаго...

Па законах Вышняе Мудрасці нічога не даецца чалавеку ў належнасць, нічога нельга прысвоіць, каб не давялося аддаць. І ў гэтым ёсць воля, права выбару. Гэтым законам усе мы абярожаныя ад залішняе сквапы, ад захопу ў маёмасць чужое душы, чужога пачування. Гісторыяй таксама не магчыма заваладаць - ні гісторыяй сваёй сям'і, ні гісторыяй Айчыны, ні, тым болей, гісторыяй, вытканай іншымі людзьмі, з іншым светаглядам ды іншай прызначанасцю ў свеце. Святло ж не запалоніш - праб'ецца скрозь усе заслоны.

Усё, што займелі ці мецьмем, падоранае нам толькі ў часовае карыстанне-навучанне, і непрыкметна для нас, незалежна ад нас яно робіцца набыткам, скарбам часавага і прасторавага бязмежжа. Ведама, мінуўшчыну можна закратаваць і ў вязніцы загасіць святло, каб не вабіла, не спакушала зазірнуць за тыя краты звонку. Але што зробіш з цяпершчынай, якая не паддаецца ніякім распарадам - снуецца сабе з усіх нітоў прыродаяўлення, каму выгодных, а каму і не надта. Пакуль мінуўшчына недзе горнецца ў цямніцы, мы не думаем, што жывём за кошт повязі з ёю., што яна трымае аберуч крохкую пасудзіну нашага бытавання - каб не рассыпалася на аскпёкі. Адамкнёны, адасоблены ад свае праміуласці, ад папярэднікаў, чалавек усяроўна падсвядома чапляецца за пёршаасноў - хай сабе і няпраўдзівую, пераніцаваную, бо ўсё жывое павінна ўглебавацца, каб расці, каб сцвердзіць сваё прышэсце.Прыкмячалі, як трава прабіваецца праз чэрствы асфальт, а танюткія бярозы ўкарэньваюцца на дахах зруйнаваных храмаў -на падстрэшках - схілах? Занесенае ў нейкую, аднаму Богу вядомую кропку, насенне шукае прычыны і мажлівасці выжыць: загуба ніколі не ёсць мэтай, загуба заўжды - вынік беспаваротнай знямогласці.

Таму наўрад ці хто разумны насмеліцца судзіць народ за тое, што ён учапіўся, як тапелец за саломінку, за чужы грунт, калі здарылася адмежаванне ад свайго, крэўнага. Не дакараем жа мы бярозку за выраст на абломах бажніцы ці зяліну за вымкненасць праз камяні. Спрацавала біялагічная абарончая рэакцыя, інстынкт самазахавання, усепланетарнае (ці ўсяленскае) цягненне да жыцця. Гэтак і нацыя - жывы арганізм - ратуецца ад самавынішчэння, прымаючы, надараецца, чужое ўлонне дзеля развіцця-ўзрастання. Але закладзеная ў травіне, бярозе і асобе, з'ява Божая, касмічная памяць неміночая, неадпрэчна выкіроўвае да першапачатку, да зладнасці . Карані праворваюць палетак, вышукваючы свой родавы канал, у якім цяплей і вальней. Незадарма ж на чужыне людзі паратункава прыпадаюць, як да жыццядайнае крыніцы, да Ведаў пра Айчыну - саграваюць новае гняздо прадаўнім цяплом родавага агменю. Бо энергія продкаў і падзеяў, імі твораных, куды мацнейшыя, чым самая поўная плынь сённяшняга нашага думання і дыхання. Бо, што нашыя жыцці-імгненні ў тысячагадовым кругазвароце Агню-Духу — толькі кроплі, мізэрныя кроплі, якім суджана ўзбагаціць нягаснавечны агонь. Аднак менавіта без гэтых, здавалася б, бязважкіх кропляў, разбурылася б светабудова. Таму гэтак парыўна, гэтак неперамож на трымаецца за жыццё ўсё існае на свеце - каб не парушыўся ў прыродзе баланс. Каб не разбурылася мудрая логіка быцця.

І гэтая неадольная логіка быцця аднойчы абавязкова сцвердзіцца - хай сабе і балюча, праз асэнсаванне ўласнае няўклюднасці і абыяканасці, хай сабе і занадта позна, калі цяжка паверыць і павяртацца да адпрэчанага вытоку. Але толькі ж павяртаннем, знітаваннем быласці з наступнасцю адбываецца высокае ачышчэнне. І толькі з ачышчэння пачынаецца шлях да праўды, да існасці ў саміх сабе і ў свеце наўкола.

## 2

Гісторыя ўзнікае са з'яўленнем чалавека. Час да гэтае прыступкі эвалюцыі - да прышэсця чалавека - дагістарычны, папераджальны. Гісторыю выкоўваюць людзі - думкамі, дзеямі, празорнасцю Духу. Людзі, самкнёныя ў непарыўныя звёны пакаленняў. Людзі, здатныя ўзвысіць сваю ролю на зямлі ці занядбаць айчынныя гнёзды, кінуць у нябыт альбо акрыліць лёс крэўнае супольнасці — роду-племені, нацыі, планеты. Гісторыя сягае ў будучыню, падмацаваная магутнай энергіяй тых дойлідаў, што ляпілі яе, гісторыю, ад першапачатку. Бо ў прасторы і часе няма пустэчы: кожная клетачка запоўненая інфармацыяй, ведамі, што прасякаюць бясконцасць на-скрозь, праграмуючы-складаючы заўтрасць, ужо сёння, яшчэ ўчора. Мы ўсе прыходзім у жыццё вольнымі. Але ж воля ёсць найперш адказнасць за тое, што мы выберам сабе ў гэтым разнастайным, разбагачаным жыцці: тое, дзеля чаго пасланыя сюды ў працяг прадзедам, ці адваротнае, разбуральнае... Мы злятаем сюды пчоламі: не прамінуць салодкі ўзятак, назапашаны прыродай-родам, перапрацаваць-усвядоміць і аддаць - дзеля новага вітка-ўздыму. Недарэмна ж слынны славянскі асветнік-першадрукар Францішак Скарына з Полацку на гравюрах біблейскіх выданняў малюе поруч вадзяны гадзіннік, пчалу, шалі ды сонца з месяцам. У бязмежнай плыні часу мы пчолы-рабачаі, раскрыленыя між сонцам і месяцам, між цемрай і святлом, ускладзеныя на вагі сусветнае гармоніі.

## 3

Раўнаванага парушаецца тады, калі чалавек выкульваецца з мінуласці, з памяці, калі губляе аснову-падмурак. Бо вядома ж : пупавіну ў немаўляці адрэзваюць не дзеля тога, каб адарваць ад маці, але ў імя навучання выжываць самому, чэрпаючы з падатлівага мяцярынскага чэрава дужасць ужо не гэтак фізічна, як тонка-душэўна, энергетычна. Гэткая самая філасофія нашага суіснавання з гісторыяй: пакуль чуем ейны сэрцабой, ейную прысутнасць у ваколлі, датуль засланёныя, апекаваныя ў руху да нашчадкаў, да новага гістарычнага звяна. Як толькі недзе надломіцца звяз - цяжка нам ў дарозе, на тых самых магічных шалях выбару. Вось тады пачынаецца вышук - чым запоўніць утвораную зломам пустэльнасць. Адны караскаюцца да сутнасці, збіваючы на раны ногі, нанова праходзяць пуцявіну дзядоў, каб знайсці пакалечанае звёнца ды зладзіцьь пераемнасць. Іншыя прымыкаюць да чужое дружыны, змацаванай сваёй памяццю, сваёй мараю. Адны, першыя, гісторыю твораць, не адступаючы ў пакутах. Другія ж прыстасоўваюцца, як тая бяроза на даху ды травіна на асфальце. Аднак і адны, і другія застаюцца на тых векавечных вагах, што ўзважваюць чалавечую і грамадзянскую важкасць-вартасць. І адны, і другія - складнікі долі Бацькаўшчыны. І адна толькі гісторыя - не зруйнаваная, не перакроеная, а праведная - здатная злучыць гэтыя дзве паловы нацыянальнае душы ў цэльны гарманічны арганізм. Пакуль жа душа разарваная ў два бакі - да вытоку і супраць яго - нацыя хворая, непаўнавартасная, нацыя самаўзнаўляецца адно на фізічным узроўні, не сягаючы на вяршыні духоўнае вечнасці. Каб з'яднацца, трэба ісці насустрач, трэба намагчыся пачуць адно аднаго, намагчыся ўбачыць святло, што прабіваецца знутры, з глыбіняў першасвядомасці, належнае ўсім - бяры і сілкуйся. Трэба знайсці ў сабе найдарожшы скарб - любоў, што знітоўвае ўсе эры, пакаленні ў жывы агонь гісторыі.

Адхінаю сцярожка завесу часу. Разгортваю кнігу "Адкуль наш род", "Апавяданні па гісторыі Беларусі для малодшых школьнікаў". Пачуваюся недарэкам-вучнем, якому доўга схітравана хлусілі, а ён цешыўся - праўда ж абавязвае сябе бараніць, а з маною прасцей: з ёю зручна зжываешся, бо яна выгодная ейным стваральнікам, а пасля і прыручанаму табе.

(Заканчэнне ў наст. нум.)

# АПОВЕСЦЬ ПРА СЛОВЫ

## Дом. Дзверы. Двор.

Для старажытнага чалавека пасля яды адно з важнейшых мейсцаў у жыцці займаў дом, дарэчы, як і зараз. Таму слова ***дом*** вельмі старажытнае. На санскрыце ***дом*** гучыць, як ***дам***. Слова ***дом*** захавалася ў многіх мовах. ***Domaine*** па-французску — маёнтак, ***domicile*** — жыллё. Вядома латынскае слова ***domen.*** У беларускай мове для тэрміна **дом** ёсць два словы: ***дом*** і ***хата***. ***Хата*** — слова таксама надзвычай старажытнае. Яшчэ задоўга да прыходу арыяў у Індыю ў хетаў сталіца называлася Хатус, што абазначае "хаты". Нямецкае ***das Haus***, дарэчы з гэтага гнязда.

Але вернемся да слова ***дом***. Які элемент абавязкова павінен мець дом? Печ? Акно? Мэблю? Не абавязковым і першачарговым элементам любога дома з'яўляюцца дзверы.

Адкуль паходзіць гэтае слова і што яно абазначае? І зноў я мушу адказаць, што і слова ***дзверы*** павінна быць крайне старажытным, не менш старажытным, чым ***дом***, бо дом без дзвярэй не мае сэнсу. Дакладней без дзвярэй, якія вісяць на завесах ён мог быць а вось без дзвярэй, як уваход, як адтуліна — не. На санскрыце ***dvar*** - адтуліна, выхад і разам з тым ***дзверы. вароты, брама***. ***Dvara, dvaraka*** — таксама ***дзверы, брама***.

Словы ***dvar, dvara*** утвараюць у санскрыце вялікае гняздо, але самі па сабе не адказваюць на пытанне пра сваё паходжанне. А развязак ляжыць, як заўсёды, побач. У санскрыце гняздо словаў на ***dvar*** пераплятаецца з гняздом словаў на ***dva***. А ***dva*** на санскрыце абазначае, як і ў нас ***два .*** Дзверы робяць з аднаго памяшкання два, з аднаго загона два. Зачыніў і падзяліў на дзве палавіны. ***Dvirvacana*** — падваенне.

Ад слова ***дзверы (dvar)*** пайшло і слова ***двор*** — тое, што знаходзіцца за дзвярыма.



Слова ***двор*** пазней - падрасло да значэння маёнтак і прыслуга, почат ці пачот манарха. Ад ***двара*** — словы і ***дваровы***, і ***дваранін***, і ***дворнік.***

Ад слова ***dvar*** у значэнні брама пайшла назва сталіцы Крышны **Дварака**, якая знаходзілася ў заходняй часцы сучаснага Гуджарата. Ад слова ***dvar*** — і ***дварэц***. У расейскай мове гэта палац. У польскай і чэшскай гэта вакзал. Але і там, і там у наяўнасці брамы, дзверы і вароты.

Найбольш старажытная форма дзвярэй дзверы на бегунках. У наш час пашыраны дзверы на завесах. У іх канструкцыю ўваходзіць шуфляда, або вушакі. На санскрыце вушакі — ***dvara - bahu***. Дзверы маюць адну ці дзве створкі. У залежнасці ад канструкцый дзверы падзяляюцца на дашчаныя, шаляваныя і філянговыя. Дзверы ў хлявах, гумнах, адрынах называюць варотамі.

У сваю чаргу адмыслова выкананыя вароты для ўезду на двор называюць брамай. Брама мусіць мець два вушакі і перакладзіну зверху. Калі ў браме вешалі весніцы, то маглі ставіць трэці вушак..

Вароты - ад ***слова варочаць. Павярнуць, паварот, вярцець***.

***. Брама. Абрамленне. Рама. Рамоўка***

Гэта словы аднаго гнязда. Фактычна вушакі з перакладзінай — тая ж рама.

Абрамленневаротаў, рама вакол варотаў - абрама, згубіла літару "***а***" і стала брамай. Невялікая фортка ў браме называлася ***брамка***, або ***весніцы*** за тое, што яна вісела на завесах.

Брамка і весніцы пазней адышліся ад брамы і сталі самастойнымі элементамі сядзібы.

***Станіслаў Суднік.***

# Да словаў *кут, куцця, покуць*

Шаноўны спадар Станіслаў Суднік!

З вялікай цікавасцю прачытаў Ваш артыкул "Кут.Куцця. Покуць". Асабліва мне спадабалася, як Вы растлумачылі розніцу паміж кутом і вуглом. Шкада толькі, што Вы не сказалі, што трэба казаць "пад кутом, напрыклад, 80 град.", а не "пад вуглом..." , як зараз паўсюль пішуць і гавораць.

Яшчэ хачу сказаць некалькі слоў пра покуць. Калісці я выпісваў са старых кніжак цікавыя звесткі. І вось у мяне захавалася цытата з кнігі: Lukasz Colebiouski "Lud Polski" 1830 г. ( у цытаце мова ідзе пра Беларусь) - " ... Klania sie katowi, u ktorym stal niegdys bozek Pokuc..."

Гэта значыць, што ў паганскія часы ў адным з кутоў хаты стаяў бажок Покуць, а потым у часы хрысціянства ў гэтым куце хаты пачалі вешаць абразы.

Зычу ўсяго найлепшага рэдакцыі газеты "Наша слова"!

***Алесь Ступень , мастак.***

Са свайго боку мушу дадаць, што і па часе ўзнікнення слова ***кут*** больш старажытнае, чым ***вугал***. Гэтае слова мы бачым яшчэ ў санскрыце. Ёсць там словы ***hima -kuta*** - снежная вяршыня. **Kuta** — тут вяршыня, а любая гара здалёк падобная на востры кут ці вугал. Ёсць у санскрыце і слова ***,dhanya-kuta,*** што абазначае свіран для збожжа. Ад гэтага слова нам засталося слова ***катух***, адгароджаная частка таго-самага свірна.

***Станіслаў Суднік.***

**Часовы выканаўца абавязкаў рэдактара Станіслаў Суднік**

*Заснавальнік:*
ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:*
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:*
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:*
231300, г. Ліда-2, а/с 7.

*Рэдакцыйная рада:*
Генадзь Бураўкін — старшыня, Людміла Дзіцэвіч, Сяргей Запрудскі, Аляксей Пяткевіч, Аляксей Рагуля, Аляксей Саламонаў, Павел Сцяцко, Алег Трусаў, Эрнэст Ялугін.

*Аўтары нясуць поўную адказнасць за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі.*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні ўпраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі і друку Гродзенскага аблвыканкама.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Кошт па дамове.Газета падпісана да друку 2. 03. 98 г.
Наклад 3500 асобнікаў. Замова № 634.
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 12 000 руб., 3 мес.- 36 000 руб.